ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# СУПРАСЛЬСКІЯ КІРЫЛІЧНЫЯ ВЫДАННІ Ў ФОНДЗЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭКІ БЕЛАРУСІ

ТАЦЦЯНА КАРНІЛАВА

***Анатацыя:*** Разглядаюцца асобныя экзэмпляры Супрасльскай друкарні, якія захоўваюцца ў фондзе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Калекцыя беларускіх кірылічных выданняў налічвае 284 экзэмпляры. Усяго ў НББ налічваецца 45 уніяцкіх і 75 экзэмпляраў стараверскіх супрасльскіх выданняў. Кнігі, выдадзеныя ў Супрасльскай друкарні, адрозніваюцца высокай якасцю і выдатным афармленнем.

***Ключавыя словы:*** кірылічныя выданні, беларускія выданні, старадрукаваныя выданні, Супрасльская друкарня, стараверскія выданні, Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

## CYRILLIC EDITIONS OF SUPRASĹ PRINTING HOUSE IN THE NATIONAL LIBRARY OF BELARUS

***Abstract:*** The article analyses some Cyrillic books of the Suprasĺ printing house from the funds of the National Library of Belarus (NLB). The collection contains 284 copies, 110 of them were published in Suprasĺ. In total, there are 45 Uniate and 75 Old Believers' Suprasĺ publications in the NLB. Books published in Suprasĺ printing house have remarkable quality and excellent design.

***Keywords:*** Cyrillic Editions, Belarusian Editions, Old-Printed Editions, Suprasĺ Printing House, Old Believers' Editions, National Library of Belarus.

У фондзе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (далей – НББ) захоўваецца значная калекцыя беларускіх кірылічных выданняў XVI–XIX стагоддзяў, якая налічвае 284 экзэмпляры выданняў, з іх 110 – надрукаваныя ў Супраслі.

Фонды НББ фарміраваліся з 1922 года і неаднаразова падвяргаліся разрабаванню. Асабліва яны пацярпелі падчас Другой сусветнай вайны, калі значная іх частка з акупаванай Беларусі была вывезена нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Германію (Киреева, 1991: 130). У цяперашні час НББ захоўвае ў фондах вялікі збор рэдкіх і старадрукаваных кніг – больш за 83 тысячы экзэмпляраў.

Большая частка беларускіх кірылічных выданняў паступіла з нацыяналізаваных манастырскіх, царкоўных і прыватных бібліятэк Беларусі, Расіі і Украіны. Значная частка кніг была набыта бібліятэкай у 1990–2000-я гады, асобныя экзэмпляры былі падораны НББ. Большасць кніг калекцыі – літургічныя выданні, літаратура духоўна-маральнага зместу. У фондзе захоўваюцца праваслаўныя, стараверскія, уніяцкія выданні.

Важнае месца ў кірылічным кнігадрукаванні займае Супрасльская друкарня Дабравешчанскага манастыра. Кнігі, выдадзеныя ў Супрасльскай друкарні, адрозніваюцца высокай якасцю і выдатным афармленнем. Кнігадрукаванне ў Супрасльскім манастыры пачалося ў канцы XVII стагоддзя. У 1695 годзе ў Супрасль з Вільні было перададзена друкарскае абсталяванне і ў новай друкарні было скончана друкаванне "Літургікона", які мае дзве даты выдання: "Вільна, 1692" і "Супрасль, 1695" (Лабынцев, 1978: 8). У НББ захоўваюцца тры асобнікі гэтага выдання. Цікавасць уяўляе экзэмпляр з шыфрам 094/156К. Экзэмпляр "Літургікона" быў рэстаўраваны, адсутныя лісты былі заменены рукапіснымі. Кніга мае рукапісны тытульны ліст з датай перапіскі – 1758 год. Почырк – паўустаў, які імітуе друкарскі шрыфт, папера XVIII стагоддзя. Рукапісны тэкст аздоблены ініцыяламі, ламбардамі. Перапісчык пазначыў сваё імя – гэта іерэй Іаан Андрусевіч, уніяцкі святар з Чарэі (Аршанскі павет Віцебскага ваяводства). Да паступлення ў фонд НББ кніга захоўвалася ў Чарэйскай царкве, аб гэтым сведчаць уладальніцкія запісы.

Іншая кніга – "Трэбнік" (шыфр – 12Н//302(026)), выдадзены ў Супраслі ў 1736 годзе, мае цікавую гісторыю бытавання. Гэта пакуль адзіны ўлічаны экзэмпляр выдання на тэрыторыі Беларусі. Раней асобнік належаў беларускаму вучонаму-славісту Яўхіму Фёдаравічу Карскаму (1861–1931). Я. Карскі – вядомы беларускі вучоны-філолаг, этнограф, фалькларыст, палеограф, аўтар больш чым 700 навуковых прац і трохтомнага выдання "Беларусы". Асабістая бібліятэка была па-

дорана Універсітэцкай бібліятэцы (потым – бібліятэка ім. У. Леніна, цяпер НББ) у 1922 годзе самім Я. Карскім. Бібліятэку Яўхіма Фёдаравіча Карскага называюць "творчай лабараторыяй". У яе склад уваходзяць кнігі па мовазнаўстве, этнаграфіі, тэалогіі, палеаграфіі.

Трэбнік, або Еўхалагіён, на царкоўнаславянскай і польскай мовах – гэта самае старажытнае выданне з калекцыі Я.Ф. Карскага. Дадзенае ўніяцкае выданне прызначана для святароў. У склад кнігі ўваходзяць малітваслоўі, якія называюцца трэбамі і здзяйсняюцца па духоўных патрэбах вернікаў.

Можна выказаць здагадку, што гэты рарытэт быў падораны навукоўцу яго бацькам, які быў святаром, альбо экзэмпляр быў набыты ўладальнікам у бібліятэку для папаўнення яе рэдкімі выданнямі. У дадзеным экзэмпляры адсутнічаюць выхадныя звесткі. Месца і дата друкавання былі вызначаны па бібліяграфічных крыніцах. Выданне ўпрыгожана ксілаграфічнымі застаўкамі, наборным арнаментам, разнастайнымі ініцыяламі. Усяго ў НББ налічваецца 45 экзэмпляраў уніяцкіх супрасльскіх выданняў.

Да канца XVII стагоддзя ў Супрасльскай друкарні было выпушчана яшчэ два кірылічныя выданні. У пачатку XVIII стагоддзя адбылося адраджэнне друкарні, пашырылася тэматыка і змест выданняў, якія друкаваліся на польскай, лацінскай, царкоўнаславянскай і французскай мовах. Усяго да 1803 года было надрукавана каля 400 выданняў лацінскім шрыфтам і больш за 100 – кірылічным (Лабынцев, 2000: 81).

Значную частку рэпертуару Супрасльскай друкарні складаюць стараверскія выданні. Пачаткам кнігадрукавання для старавераў лічыцца 1772 год. Друкарня была стратнай для Дабравешчанскага манастыра, і ўжо ў 1768 годзе яе склад быў запоўнены кнігамі, якія дрэнна прадаваліся. Першым заказчыкам-стараверам быў купец Міхаіл Рыгоравіч Салаўёў (Вознесенский, 1991: 7). Пасля ад'езду М. Салаўёва з Супрасля ў Варшаву выпуск выданняў для "змагароў старой веры" на некаторы час спыніўся. Аднаўленне друкавання літаратуры ў Супрасльскім манастыры звязана з імем старадубскага купца Пятра Ільіча Губарава (Починская, 1994: 41). Па замове П. Губарава друкаваліся "Альфа і Амега", "Пакуты Хрыстовы", "Патэрыкі скіцкія". У НББ захоўваецца асобнік кнігі "Пакуты Хрыстовы" (шыфр – 12Н//156(026)), у якім маецца запіс карычневым чарнілам "Губараў". Можна меркаваць, што дадзены экзэмпляр раней належаў менавіта П.І. Губараву.

Заслугоўваюць увагі "Павучанні" прападобных Яфрэма Сірына і аввы Дарафея 1791 года (шыфр – 12РК28695К). Святыя айцы вельмі шанаваліся прыхільнікамі старой веры. "Павучанні" часта перавыдаваліся, прычым у розных друкарнях і фарматам у 2-ю і 8-ю

долю аркуша. Цікавасць уяўляе экзэмпляр, які паступіў з Веткаўскага рэгіёна Гомельскай вобласці. Гравюра Яфрэма Сірына і застаўка расфарбаваныя ад рукі фарбамі. Застаўка таксама ўпрыгожана выявамі сонца і месяца. На пустым лісце намаляваны выявы аввы Дарафея і анёла. Аздабленне выканана ў "веткаўскім стылі": мы бачым наяўнасць матыву "марская хваля", блакітную, жоўтую і зялёную фарбы. Усё гэта сведчыць, што кніга бытавала ў Ветцы – цэнтры староверскай кніжнай культуры Беларусі.

Кніга "Собрание краткой науки об артикулах веры" была выдадзена ў Супраслі ў 1788 годзе. Асобнік з фонду НББ (шыфр – 12РК28606) захаваўся ў добрым стане. Уражвае прыгожы скураны пераплёт, залачоны абрэз старадрукаванай кнігі. Цікавасць выклікае і яе былы ўладальнік. Гэта кніга раней захоўвалася ў староверскага настаўніка Агея Рыгоравіча Волкава. Агей Волкаў (1892–1992) быў кіраўніком царкоўнага хору, настаяцелем Нідзеркунскай абшчыны ў Даўгаўпілсе (з 1955 года), карыстаўся павагай сярод стараабрадцаў, меў асабістую бібліятэку (Барановский, 2005: 79).

У НББ налічваецца 75 экзэмпляраў староверскіх супрасльскіх выданняў, але трэба ўлічваць факт, што не ўсе староверскія выданні, у выхадных звестках якіх пазначана "Супрасль", былі надрукаваны менавіта ў Супраслі (Кніга Беларусі, 1986: 18). Многія староверскія выданні маюць несапраўдныя выхадныя звесткі. Старадрукі з несапраўднымі выхаднымі звесткамі атрыбуціруюцца пры дапамозе каталогаў арнаментыкі, а дата выдання вызначаецца па філігранях – вадзяных знаках на паперы. Напрыклад, у выхадных звестках кнігі "Пакуты Хрыстовы" (шыфр – 12Н//156(026)) пазначана несапраўдная дата выдання – 1689 год. Аднак на паперы ёсць вадзяны знак – 1788 год. Такім чынам было вызначана, што кніга выдадзена пасля 1788 года.

Згодна з даследаваннем вучоных, выпуск кніг для староверАў спыніўся ў пачатку 90-х гадоў XVIII стагоддзя. Супрасльскія выданні ўваходзяць у калекцыю беларускіх кірылічных выданняў і з'яўляюцца каштоўнымі помнікамі кніжнай культуры.

***Бібліяграфія***

1. Барановский, Василий (2005). *Староверие Балтии и Польши.* Вильнюс: Aidai.

2. Вознесенский, Андрей (1991). *Кириллические издания старообрядческих типографий конца XVIII – начала XIX века.* Ленинград: Ленинградский университет.

3. Киреева, Галина (1991). «Белорусская старопечатная кирилловская книга в фондах Государственной библиотеки БССР им. В.И. Ленина», *Кніжная культура Беларусі: да 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны*. Мінск: Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа.

4. *Кніга Беларусі (1517–1917)* (1986). Мінск: БелСЭ.

5. Лабынцев, Юрий (1978). *Кирилловские издания Супрасльской типографии.* Москва: ГБЛ.

6. Лабынцев, Юрий (2000). «Языки кирилловских и латинографичных печатных изданий Супрасля – крупнейшего белорусского издательского центра XVII–XIX вв.», *Hungaro-Baltoslavica:* 81–82.

7. Починская, Ирина (1994). *Старообрядческое книгопечатание XVIII – первой четверти XIX веков*. Екатеринбург: УрО РАН.